№ 11(134)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Ліпень 2012 г.

## МАГІЛЁЎСКІЯ ДЭМСІЛЫ ВЫЛУЧАЦЬ НА ВЫБАРЫ 18 КАНДЫДАТАЎ У ДЭПУТАТЫ ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ




Старшыня Каардынацыйнай рады Магілёўскай абласной кааліцыі дэмсілаў Юрый Новікаў паведаміў, што магілёўскія дэмакраты падтрымаюць вылучэнне 18 кандыдатаў у дэпутаты ў розных рэгіёнах вобласці.

Дэмакратычныя кандыдаты збіраюцца ісці на выбары як праз партыйнае вылучэнне, так і шляхам збору подпісаў. Удзельнічаць у парламенцкай кампаніі плануюць прадстаўнікі цэлага шэрагу партый і арганізацый - ПБНФ, АГП, “Справядлівага свету”, руху “За свабоду” і кампаніі “Гавары праўду”. Кандыдаты ад абласной кааліцыі дэмакратычных сілаў будуць удзельнічаць у змаганні за дэпутацкія мандаты у дзесяці выбарчых акругах з трынаццаці, якія існуюць у Магілёўскай вобласці. На дадзены момант не прадстаўлены вылучэнцы ад апазіцыі толькі ў трох акругах: Бабруйскай-Ленінскай № 78, Бабруйскай сельскай № 80 і Горацкай № 82.

У некторых выбарчых акругах дэмакратычныя прэтэндэнты будуць канкураваць за выбарчыя мандаты паміж сабой. Так, па Крычаўскай выбарчай акрузе № 83 збіраюцца вылучацца у якасці кандыдатаў прадстаўнікі “Гавары праўду” Валерый Каранкевіч і Руху “За свабоду” Мікалай Гердзій, па Магілёўскай-Ленінскай выбарчай акрузе № 84 і Магілёўскай –Цэнтральнай выбарчай акрузе № 85 будзе ажно па чатыры прадстаўнікі ад розных дэмакратычнага лагеру.

У Магілёўскай сельскай акрузе № 88 і па нашай Шклоўскай выбарчай акрузе № 90 збіраюцца ўдзельнічаць у выбарах прадстаўнікі ад партыі БНФ і “Справядлівага света”: Тамара Маскалёва і Канстанцін Тыртычны па акрузе № 88, Рыгор Кастусёў і Зінаіда Мілешчанка – па акрузе № 90 адпаведна.

Асабіста я прытрымліваюсь меркавання, што ўдзельнічаць у гэтых выбарах дэмакратам абсалютна непатрэбна, бо толькі чалавек, які верыць у казкі, можа спадзявацца на тое, што ў нашай краіне адбудуцца свабодныя і справядлівыя выбары. Тым больш, што па нашай канстытуцыі, па вялікім рахунку, парламент наогул не з’яўляецца органам улады. Нават калі апазіцыянеры займуць там усе месцы, абсалютна нічога не зменіцца, бо ўся

*(Пачатак. Заканч. на стар. 4)*

## ШТО НАПАЛОХАЛА ЛУКАШЭНКУ?

«Нам надо создать в экономическом отношении почти одно государство. Это стратегия. И к этому постараться приспособить наши политические системы. Потому что, может быть, придется еще что-то создавать помимо Евразийской экономической комиссии. Может, у нас и единая оборона будет». Гэта заявіў А.Лукашэнка 22 чэрвеня 2012 года на сустрэчы з маладымі грамадазнаўцамі ў Музеі сучаснай беларускай дзяржаўнасці.

Для тых, хто праследжвае выступленні Лукашэнкі, добра заўважна, што рыторыка яго выказванняў на дадзеную тэму можа рэзка змяняцца на працягу кароткага тэрміну.

Чаму ж ён так тэрмінова змяніў вектар свіх выказванняў у адрозненні ад сказанага крыху раней?

Бо, менавіта, за тыдзень да таго на сустрэчы з прэзідэнтам Башкартастана Рустэмам Хамітавым у Мінску 14 чэрвеня 2012 г., ён зусім па іншаму рэагаваў на выказванні прэм’ер-міністра Расіі Дз.Мядзьведзева і пасла Расійскай Федэрацыі ў Беларусі А.Сурыкава аб неабходнасці тэрміновага ўвядзення расійскага рубля ў якасці адзінай валюты ў маштабе Еўразійскага саюза і правядзення прыватызацыі ў Беларусі.

“Гэта наша прыватызацыя, гэта мы будзем вырашаць, што нам прыватызаваць і калі... па якім кошце і на якіх умовах”, — гучыць у яго заяве.

Наконт далейшай інтэграцыі Беларусі з Расіяй ён выказваўся ў яшчэ больш катэгарычнай форме; што яна будзе адбывацца толькі ў тым выпадку, “...калі мы не будзем наступаць адзін аднаму на горла і патрабаваць пытанняў, якія яшчэ не стаяць у парадку дня”. Адназначна, гэта прагучала як адказ на пытанне па тэме аб увядзенні адзінай валюты

*(Пачатак. Працяг на стар. 2)*

# ШТО НАПАЛОХАЛА ЛУКАШЭНКУ?



***Аляксандр Лукашэнка***

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

ў маштабе Еўразійскага саюза і правядзення прыватызацыі ў Беларусі.

“Гэта наша прыватызацыя, гэта мы будзем вырашаць, што нам прыватызаваць і калі... па якім кошце і на якіх умовах”, — гучыць у яго заяве.

Наконт далейшай інтэграцыі Беларусі з Расіяй ён выказваўся ў яшчэ больш катэгарычнай форме; што яна будзе адбывацца толькі ў тым выпадку, “...калі мы не будзем наступаць адзін аднаму на горла і патрабаваць пытанняў, якія яшчэ не стаяць у парадку дня”. Адназначна, гэта прагучала як адказ на пытанне па тэме аб увядзенні адзінай валюты — расійскага рубля на тэрыторыі нашай краіны.

Што ж так напалохала А.Лукашэнку, што ён вымушаны быў канцэптуальна змяніць сутнасць сваіх выказванняў на тэму інтэграцыі з Расіяй?

А адказ вельмі просты...

Гэта прывіды новай “нафтавай вайны” паміж Расіяй і Беларуссю, падобнай на ранейшыя — “газавую”, “малочную”, але па маштабах найбольш адчувальную для эканомікі нашай краіны. Прывіды “нафтавай вайны” аказаліся больш страшнымі, чым жахі частковай страты ўлады пры аб’яднанні ў “амаль адзіную дзяржаву”, якое прадугледжвае і адзіную валюту, і прыватызацыю па правілах Расійскай Федэрацыі...

За студзень-красавік 2012 года экспарт некаторых беларускіх нафтапрадуктаў — растваральнікаў і разбаўляльнікаў, у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага году, павялічыўся ў 7,3 разы і склаў 1705,4 млн. долараў. Экспарт змазачных алеяў, выробленых таксама з расійскай нафты, павялічыўся ажно ў 43 разы ў параўнанні з аналагічным перыядам 2010 года і склаў 590,9 млн. долараў.

Падобны беларускі бізнэс вызваў шэраг пытанняў сярод правячай эліты Расійскай Федэрацыі. Бо расійскі бюджэт губляе значныя сумы з-за непраплочаных вывазных мытаў на беларускія нафтапрадукты.

Раскрыццё афёры ў сферы гандлю нафтапрадуктамі нясе пагрозу існаванню беларускага “разбаўляльнарастваральнага” бізнэса і страту мільярдных прыбыткаў.

Для выхаду са склаўшайся сітуацыі, дзеля захавання прыбытковага бізнэсу, беларускаму боку нічога не застаецца, як пайсці на саступкі ў выглядзе прыватызацыі актываў беларускіх прадпрыемстваў на карысць расійскаму капіталу.

Акрамя гэтага, раскрыццё гандлёвай афёры дазваляе Крэмлю праз пагрозу закрыцця бізнэса атрымаць рэальныя рычагі ўплыву на беларускае кіраўніцтва з мэтай дасягнення таго, каб Беларусь урэшце выканала свае абавязальніцтвы перад Антыкрызісным фондам ЕўрАзЭС аб атрыманні за 2012 год выручкі ў памеры 2,5 млрд. долараў ад прыватызацыі. Бо амаль за паўгода пакуль яшчэ ні адной буйной прыватызацыйнай здзелкі ў Беларусі не праведзена.

Такім чынам, у Крамля адкрываюцца рэальныя перспектывы праз прыватызацыю прапіхнуць у Беларусь расійскі бізнэс і не дапусціць капітал з іншых краін. А гэта дазволіць яму, у сваю чаргу, ў значнай ступені ўплываць на фармаванне коштаў прыватызацыі беларускіх прадпрыемстваў.

А прыватызаваць у Беларусі ёсць што, бо “беларускі пірог” да гэтай пары яшчэ не падзелены. І дзялёжка яго плануецца не на карысць беларусаў.

Толькі, напрыклад, указам № 7 ад 5 студзеня 2012 года, практычна растаптаўшы правы беларускага народу, правы працоўных калектываў, пад выглядам “благавіднага паступка” Лукашэнка адкрыў дарогу расійскаму бізнэсу да прыватызацыі 54 пасляховых беларускіх прадпрыемстваў.

А тое, што на 2013-2014 гады для Беларусі прыпадае пік выплат па знешніх абавязальніцтвах, зноўку грае на карысць Крамля.

Беларусь апынулася перад рэальнай пагрозай, якая вядзе да поўнай страты эканамічнай а надалей і палітычнай незалежнасці ў выніку стварэння адзінай дзяржавы, аб чым выказаўся А.Лукашэнка ў час наведвання Музея сучаснай беларускай дзяржаўнасці.

Як паказаў час, кіраўніцтва беларускай дзяржавы цалкам і канчаткова засведчыла свой непрафесіяналізм, непатрыятызм, неўменне і нежаданне праводзіць самастойную эканамічную палітыку незалежнай дзяржавы ў інтарэсах яе народу.

Ідэя ўтрымання эканомікі ў выглядзе “прыслугі” беларускай палітычнай мадэлі цалкам правалілася.

У дадзенай сітуацыі здаровым нацыянальна-патрыятычным сілам Беларусі неабходна прыняць тэрміновыя меры па непрызнанню на міжнародным узроўні падобных здзелак па продажу нацыянальнай маёмасці. Незаконныя здзелкі, праведзеныя з парушэннямі беларускага заканадаўства павінны будуць падлягаць пераглядзу.

***Рыгор Кастусёў, намеснік старшыні партыі БНФ***

## ЭКС-МИНИСТР: ЗА 18 ЛЕТ ЛУКАШЕНКО ПОСТРОИЛ БОЛЬШОЙ СОВХОЗ

18 лет пребывания Лукашенко на посту главы государства ушли на то, чтобы построить большой совхоз с совхозным стилем управления и совхозной номенклатурой, совхозной коррупцией и совхозным бардаком. Таков итог этого правления по мнению экс-министра труда, независимого социолога Александра Соснова.

Напомним, ровно 18 лет назад, 10 июля 1994 года, Александр Лукашенко стал белорусским президентом.

- От него поначалу ожидали совершенно другого, поскольку он говорил о другом, - рассказал ucpb.org Александр Соснов. - Он пришел как демократ, который собирается реформировать старую советскую систему, создавать что-то новое на рыночных условиях в независимой стране. Но буквально сразу начались совершенно непонятные союзные игрища, которые лишь портили людям нервы. Их идея состояла в том, чтобы пограбить Россию, пососать ее природную ренту. Какой построен рынок вы сами видите – полузапущенный, полумафиозный, коррупция, изо всех щелей торчат чиновничьи уши. Это не рынок, а псевдо, квазирынок, который выдают за рынок, и тем самым пугают людей.

В итоге он построил большой совхоз с совхозным стилем управления и совхозной номенклатурой, с совхозной коррупцией и совхозным бардаком. В общем, страны не получилось.

И кстати, он не обещал захватывать власть на всю жизнь. Он клялся на Конституции, что пришел на 5 лет. Естественно, обманул всех.

- Согласно статистике, какую оценку дают этому правлению люди?

- Если поначалу был довольно большой процент поддержки (его поддерживали больше 60 %), то сейчас и до 30 % не доходит. Этим все сказано.

- Что может ожидать Беларусь при этом правителе?

- Что-то можно ждать уже после его правления. Но, боюсь, он никоим образом никому не отдаст власть, даже своим детям. Поэтому нашу страну ждет такое же загнивание, как и многие африканские, азиатские страны. И это будет продолжаться.

***пресс-служба ОГП***

## «КОММУНАЛКА» СНОВА ДОРОЖАЕТ

Тарифы на жилищно-коммунальные услуги в Беларуси до конца 2012 года планируется повысить.

Об этом сообщил журналистам заместитель министра жилищно-коммунального хозяйства Анатолий Шагун.

Правительство определило тарифную политику на 2012 год в расчете повышения цен якобы на $5 для стандартной двухкомнатной квартиры с тремя проживающими. Исходя из этого, можно определить, что в том же диапазоне надо ожидать повышения тарифов на жилищно-коммунальные услуги до конца года, отметил Анатолий Шагун.

При этом он не назвал конкретные сроки возможного повышения, хотя нет сомнений, что $5 оно врядли ограничится.




Заместитель министра также сообщил, что по действующим с 1 июня тарифам возмещение затрат населением жилищно-коммунальных услуг составляет в среднем 15%. Электроэнергия и газ в этот показатель не входит, уточнил он.

## МАГІЛЁЎСКІЯ БАЖАЎЦЫ І АКТЫВІСТЫ НЕДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭСЫ НЕ ЗАБЫВАЮЦЦА НА АСУДЖАНЫХ КАЛЕГ




Гэтымі днямі ў Магілёве было распаўсюджана на вуліцах і праз паштовыя скрыні ў дамах больш за 800 улётак са звесткамі пра беларускіх палітвязняў і з іх адрасамі для ліставання і кантактаў.

Гэтую акцыю разам з сваімі актывістамі правяла недзяржаўная газета “Наш Магілёў”, якая ўзяла “інфармацыйнае шэфства” над палітвязнямі, што ўтрымліваюцца ў папраўчых установах Магілёўскай вобласці (цяпер такіх тут 7 чалавек з 13-і палітычна-асуджаных у краіне).

Ад пачатку года і да гэтага часу тэме палітычных зняволеных рэдакцыя прысвяціла таксама 6 выпускаў інфармацыйных бюлетэняў “Палітвязні”, матэрыялы якіх дублююцца таксама на сайце gazetanm.eu. Сама рэдакцыя папяровага варыянту газеты і сайта вядзе з палітвязнямі непасрэдную перапіску, да чаго заахвочвае і сваіх чытачоў і прыхільнікаў. Па рэдакцыйных назіраннях, людзі найбольш цікавяцца магчымасцямі кантактавання з былым кандыдатам у прэзідэнты Мікалаем Статкевічам, якога ўтрымліваюць у Магілёўскай турме, і вядомым у краіне і свеце праваабаронцам Алесем Бяляцкім, які адбывае пакаранне ў Бабруйску. Дарэчы, абодва палітычныя зняволеныя з’яўляюцца сябрамі БАЖ, пра што магілёўскія журналісты таксама не забываюцца.

***Служба маніторынгу ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў”***

# МАГІЛЁЎСКІЯ ДЭМСІЛЫ ВЫЛУЧАЦЬ НА ВЫБАРЫ 18 КАНДЫДАТАЎ У ДЭПУТАТЫ ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ




*(Заканч. Пачатак на стар. 1)*

ўлада ў краіне сканцэнтравана ў руках Рыгоравіча і яго нашчадкаў.

Аднак ужо зараз можна сказаць, што нікога з апанентаў правячага рэжыма ў новым складзе Палаты прадстаўнікоў не будзе. Яны ж могуць нейкія праблемы ўздымаць, сумняваццa ў мудрых рашэннях нашага галоўнага спецыяліста ў развіцці абсалютна ўсіх галін народнай гаспадаркі. Таму Аляксандр Рыгоравіч яшчэ ў лютым папярэдзіў: у "Палаце" павінны быць толькі правераныя кадры. Некалькі дзён таму старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька агучыў інфармацыю, што ва ўладных кабінетах ужо ёсць спіс усіх 110 дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў. Так што, паважаныя землякі, выбары ў нас яшчэ не пачыналіся, а дэпутаты ўжо фактычна ёсць…

"И что бы ни происходило, сколько бы их оппоненты ни набрали голосов - 55 или 99 процентов, все равно назначенные люди получат депутатский мандат. Так было и в 2000 году, и в 2004-ом, и в 2008-ом", - кажа Анатоль Лябедзька.

Таму я цалкам падтрымліваю меркаванне маладога Аляксандра Рыгоравіча: нафіга нам гэтыя выбары, усё роўна падмануць. Навошта выбіраць людзей, якія будуць думаць толькі пра тое, як бы дагадзіць галоўнаму начальніку і лепш уладкавацца ля кармушкі. На інтарэсы сваіх выбаршчыкаў гэтым "дэпутатам" глыбока начхаць, бо трэба ж дагаджаць таму, хто цябе прызначыў.

Паважаю мужных людзей з дэмакратычнага лагера, якія ўсё ж ідуць на гэтыя "выбары", але сам па-ранейшаму адношусь да іх з пачуццём гумару і наогул прапаную замяніць наш "парламент" на аднаго Колю. Усё роўна ён у нас і так "спадчыннік", падымаць руку аднагалосна, як і нашы дэпутаты, зможа, а грошы на яго ўтрыманне патрэбна нашмат менш, чым на дэпутатаў Нацыянальнага Сходу. Няхай прызвычайваецца, меншы Аліеў у Азербайджане таксама ў бацькі вучыўся. Як і і Кім Чэн Ун у Паўднёвай Карэі, дарэчы.

Ну а "пераможцы" выбарчай кампаніі ў нашай Магілёўскай вобласці ў аблвыканкамаўскіх кабінетах ужо добра вядомы. Па кожнай акрузе ім прызначаны апаненты, якія будуць ствараць прыгожую карцінку "дэмакратычных выбараў", калі ўсё ж дэмакратычныя прэтэндэнты вырашаць не ўдзельнічаць у гэтым лахатроне.

Да таго ж, каб "найміты праклятых буржуінаў" не замінаілі весці "справядлівы" падлік галасоў, у Магілёўскай вобласці ў склад 13 акружных выбарчых камісій дапусцілі толькі трох прадстаўнікоў дэмакратычных партый з 32-х, якія былі прапанаваныя "пятай калонай". Па нашай Шклоўскай выбарчай акрузе № 90 ў склад камісіі не трапілі ні прадстаўнік БНФ, афіцэр запасу Міхаіл Кучарэнка, ні прадстаўнік "Справядлівага свету, рабочы-будаўнік Анатолій Мілешчанка. Што ж, яны ж галасы могуць падлічыць не так, як трэба нашым чыноўнікам, лепш ужо гэтым няхай займаюцца надзейныя правераныя людзі з "Белай русі" і "лукамола" (прабачце, БРСМ)…

Вось такія ў нас будуць "выбары", паважаныя землякі…

***Іван Барысаў***

## НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ РЫХТУЕЦЦА ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ?

Цягам года шэсць прадпрыемстваў вобласці зменюць форму ўласнасці і стануць адкрытымі акцыянернымі таварыствамі.

Сярод тых, хто патрапіў у гэты спіс: завод зборнага жалезабетона №2, завод жалезабетонных вырабаў, домабудаўнічы камбінат, гідролізны завод у Бабруйску, а таксама Магілёўскі домабудаўнічы камбінат і Магілёўскі завод ліфтавага машынабудавання.

Пераўтварэнне прадугледжвае размеркаванне долі прадпрыемстваў на кожную акцыю. Адзначаецца, што у гэтым годзе выстаўленне акцый на продаж не прадугледжваецца. Тым часам новая форма ўласнасці можа сведчыць пра тое, што гэтыя прадпрыемствы могуць быць прададзеныя ў любы момант пасля пераўтварэння і юрыдычных перашкод для гэтага няма.

У 2013 годзе акцыянернымі таварыствамі плануюць зрабіць яшчэ 12 прадпрыемстваў. Сярод іх Беларускі цэментны завод у Касцюковічах, "Крычаўцэментнашэфер", Бабруйскі завод трактарных дэталяў і агрэгатаў, Клімавіцкі лікёра-гарэлачны завод, "Магілёўдругчармет".

***В. Няўрыда, "Наш Магілёў"***

# І ПЛЫВЕ ГНОЙ У РАКУ

У ААТ “Новая Друць” нахабна парушаецца заканадаўства аб ахове прыроды, аднак чыноўнікі з Бялыніцкага райвыканкама на гэта ніяк не рэагуюць.

Яшчэ вясной гэтага года механізатары былой гаспадаркі Нацыянальнага банка РБ – ААТ “Новая Друць” – вывезлі на пойменныя лугі ракі Вослiўка каля вёсак Малая Машчаніца і Лісаўка цэлыя груды гною і пасля гэтага на іх забыліся. З пачаткам дажджоў гной па меліярацыйным каналам плыве ў раку і забруджвае навакольнае асяроддзе, аднак чыноўнікаў з Бялыніцкага райвыканкама, якія адказваюць за экалогію, гэта ніякім чынам не хвалюе.

Мясцовыя жыхары неаднаразова звярталіісь у райвыканкам і Машчаніцкі сельсавет з просьбай навесці парадак і пакараць тых, хто забруджвае адну з самых чыстых рэчак у Магілёўскай вобласці, аднак усе гэтыя звароты не прынеслі ніякага плёну. Як лічаць самі вяскоўцы, райвыканкамаўскія чыноўнікі не хочуць сварыцца з кіраўніцтвам багатай гаспадаркі, таму і не прымаюць неабходных мер для выпраўлення сітуацыі.

“Усе яны звязаны паміж сабой, таму і не хочуць нічога рабіць для захавання прыроды, - кажа адзін з жыхароў аграгарадка Вялікая Машчаніца. – Я сам асабіста звяртаўся ў Машчаніцкі сельсавет па гэтаму пытанню, тэлефанаваў у райвыканкам, аднак ніякіх мер не прымаецца. Таму і прыродаахоўнае заканадаўства ў нас не дзейнічае, што чыноўнікі адзін аднаго пакрываюць. Ну а рэчка між тым пастаянна забруджваецца і патроху гіне”.

Я думаў, што, магчыма, людзі крыху перабольшваюць праблему. Але калі пабыў на месцы і паглядзеў уласнымі вачыма, што творыцца на лузе каля вёскі Малая Машчаніца, захацелась запытацца ў нашых “слуг народа”, за што яны атрымліваюць свае неблагія заробкі? Толькі за тое, што пужаюць простых людзей штрафамі за “навядзенне парадку на зямлі”, а сваім калегам-чыноўнікам з багатай гаспадаркі слова сказаць баяцца і парушэнняў “не бачаць”? Там жа творыцца сапраўдны бардак і ні пра якое-небудзь выкананне закона аб ахове прыроды наогул размовы быць не можа.



Ну а тое, што кіраўніцтву “Новай Друці” на ўсе законы начхаць, сумневу не выклікае, бо яно, хутчэй за ўсё, жыве “па-паняццях”. У пацвярджэнне гэтага прывяду просты прыклад: мясцовыя жыхары паказалі мне ў лесе вялізны груд кукурузнай мукі, якая ўжо сапсавалася і крыху раней была вывезена ў лес на машыне гаспадаркі. Гэта рабацяга, калі ўкрадзе вядро канцэнтратаў, можа сесці за краты. Ну а кіраўнікам усё дазволена, - згнаілі каштоўны корм і вывезлі ў лес. Зноў жа, узнікае пытанне, а куды глядзяць чыноўнікі з упраўлення сельскай гаспадаркі Бялыніцкага райвыканкама, якія кантралююць працу акцыянернага таварыства. Заробкі ж “за добрую працу” ім нядаўна зноў падвысілі, толькі толку ад гэтага няма…

Затое на адзіных днях інфармавання насельніцтва чыноўнікі з Бялыніцкага райвыканкама рэгулярна распавядаюць пра тое, як добра ў раёне працуюць са зваротамі грамадзян і як шмат увагі надаецца ахове навакольнага асяроддзя. Але ці можна іх словам верыць?

***Сяргей Семяновіч***



***Сапсаваныя канцэнтраты ў лесе***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

## АБЯЦАНАГА ЭКАНАМІЧНАГА "ВЫБУХУ" НА ВЁСЦЫ ПАКУЛЬ НЕ БУДЗЕ, МЯРКУЕ ЭКСПЕРТ

Дэкрэт №6, які актыўна рэкламуецца Міністэрствам эканомікі і які дае некаторыя падаткавыя і іншыя льготы прадпрымальнікам у сельскай мясцовасці, не знойдзе водгуку, бо няма каму скарыстоўваць той закон. Такое меркаванне выказаў Рацыі эканаміст Міхаіл Залескі.

- Кожны раз даводзіцца падкрэсліваць, што Беларусь – гэта краіна, у якой цалкам перамог піяр. Гэтая заява – яна не абгрунтаваная з некалькіх пазіцыяў. Па-першае, колькі людзей засталося ў нас так званага вясковага насельніцтва і дзе яно знаходзіцца. Бальшыня вясковых жыхароў знаходзяцца ў буйных сельскіх паселішчах. У сярэдніх і малых вёсках людзей, здольных да вядзення бізнесу, у адпаведным узросе і фізічных магчымасцях, - не засталося.

"Там засталіся альбо старыя, альбо сацыяльна дэградаваныя людзі, на жаль", - зазначае эканаміст.

Міхаіл Залескі ўпэўнены, што вёска пачне адраджацца менавіта тады, калі дзяржава адмовіцца ад велізарных гаспадарак, а пойдзе па прыкладзе суседніх краін. "Але Лукашэнка – калгасны гадаванец, таму і лічыць найлепшымі гаспадаркі ў 22 тысячы гектараў. Такога няма нідзе", - падкрэсліў эканаміст.

***Рыгор Сапяжынскі***

## МИНИМАЛЬНАЯ ЗАРАБОТНАЯ ПЛАТА ЗА ИЮНЬ — 1 047 550 РУБЛЕЙ

В Беларуси минимальная заработная плата за июнь 2012 года индексируется на 6,4% (как и за май). Это обусловлено тем, что индекс потребительских цен за июнь не превысил пятипроцентный порог к маю 2012 года — моменту предыдущей индексации, сообщили БЕЛТА в Министерстве труда и социальной защиты.

Таким образом, месячная минимальная заработная плата (МЗП) за июнь составляет по-прежнему 1 047 550 рублей, часовая минимальная заработная плата — 6210 рублей.

## РАСКРЫТА ТАЙНА БЕЛОРУССКОГО ЭКОНОМИЧЕСКОГО "ЧУДА"

Заместитель министра иностранных дел Беларуси Александр Гурьянов констатирует, что в январе-мае 2012 года 80% прироста белорусского экспорта было сформировано за счет нефти, нефтепродуктов и растворителей.

"На днях мы сделали предварительный анализ пяти месяцев. Ожидаемое сальдо внешней торговли товарами и услугами составит $3 млрд. 80% прироста нашего экспорта - это нефть, нефтепродукты и растворители", - заявил А.Гурьянов, встречаясь во вторник в Минске с представителями белорусского дипкорпуса.

По словам А.Гурьянова, удельный вес этой позиции в общем объеме экспорта составил 48% против 31% в январе-мае 2011 года.

"У нас есть прирост в торговле со странами Евросоюза, но там все понимают, чем этот прирост сформирован", - сказал замминистра.

В свою очередь посол Беларуси в России Андрей Кобяков отказался прокомментировать агентству "Интерфакс-Запад" ход расследования, которое ведет Россия в отношении причин роста белорусского экспорта растворителей и разбавителей.




А.Гурьянов заметил, что в целом количественные показатели внешнеэкономической деятельности МИД расценивает как удовлетворительные, однако качественная структура белорусского экспорта вызывает определенную обеспокоенность. "В меньшей степени диверсификация экспорта отмечается в области товаров и услуг, и это ставит для нас вопрос, куда мы движемся дальше", - сказал А.Гурьянов.

Он добавил, что МИД видит большие перспективы по продвижению белорусских товаров на рынках Азии и Латинской Америки, однако констатирует, что в поставках белорусской продукции в страны СНГ и, в основном, страны Африки практически не появляется новых позиций.

***"Интерфакс-Запад"***

# БАЛЛАДА О ЗАВЕТНЫХ 500 ДОЛЛАРОВ




Старая песня о главном повторяется спустя почти два года после первой премьеры — Александр Лукашенко требует, во что бы то ни стало обеспечить в 2012 году рост средней зарплаты до 500 долларов.

“Разговоры о том, что мы не достигнем в этом году средней зарплаты в эквиваленте 500 долларов, пустые. Об этом свидетельствует деятельность многих предприятий. К примеру, в Минске средняя зарплата приближается к 500 долларов и будет больше. Почему другие не могут? И другие должны”, — заявил Лукашенко, принимая с докладом председателя Нацбанка Надежду Ермакову.

При этом Лукашенко отметил: “Частники должны поставить для себя задачу достижения в этом году средней зарплаты не в 500 долларов, а под 700. А на госпредприятиях эта цифра должна перешагнуть рубеж в 500 долларов. Это железно должно быть выполнено”.

Безусловно, из этих цитат логично возникают два вопроса. Во-первых, как будут считать среднюю зарплату в 500 долларов? По принципу: 800 долларов в месяц получает чиновник или директор, а рабочий – 200 и в результате на двоих в среднем имеем 500 долларов в месяц? И второй: если фирма частная, то каким боком имеет к ней отношение Лукашенко, что бы указывать частнику, какую зарплату на фирме устанавливать?

Правда, всё это может оказаться незначительными частностями на фоне возможного результата, к которому может привести это популистское требование белорусского президента. К какому? Для того, что бы ответить на этот вопрос, достаточно вспомнить, к чему в 2011 году привело предвыборное желание понравиться избирателям кандидата в президенты Лукашенко. Приказом по стране зарплаты накануне выборов 2010 года подняли до этих заветных 500 долларов. А результат?

Девальвация, обвал белорусского рубля, безудержный рост цен, потерянные вклады, снижение зарплат, увольнения, банкротства…

И ведь независимые экономисты сразу предупредили руководство страны о том, что бы не печатали пустых денег, не поднимали искусственно «незаработанные» зарплаты! Не послушались…

Будет ли повторение? Пока сказать трудно, хотя и опасность этого велика. Кроме того, даже в этом годы мы имеем постоянный рост цен.

По итогам года правительство рассчитывает удержать инфляцию в пределах 19—22%. В 2011 году потребительские цены увеличились на 108,7%.

Что будет в начале 2013 года, если к концу 2012 зарплаты вырастут до 500-700 долларов? Год 2011 часть 2?

Напомню, Лукашенко заявил, что требование по увеличению зарплаты должно быть неукоснительно выполнено. “Конечно, это основная задача для правительства, но Национальный банк не должен стоять в стороне”, — сказал руководитель Беларуси.

Ну а наши доблестные статистики между тем сообщают, что средняя начисленная заработная плата за май месяц в городском посёлке Белыничи составила 2 917 779 рублей. Что-то верится с трудом, как и в то, что экономика Белынич будет расти ударными темпами, иначе за счёт чего платить зарплату в 500 долларов...

**Василь СЛУШНЫ**

**Анекдот дня**

*…А напоследок, дорогой Изя, сообщаю, что письмо, в котором ты просиш денег, мы не получали.*

# БЯЛЫНІЧАНЕ ПРЫНЯЛІ ЎДЗЕЛ У СВЯТКАВАННІ КУПАЛЛЯ Ў АЛЕКСАНДРЫІ

Працаўнікі культуры Бялыніцкага раёна прынялі ўдзел у свяце “Александрыя збірае сяброў” на малой радзіме Аляксандра Лукашэнкі, дзе паказалі цікавую і разнастайную праграму. Толькі вось пра нейкія прымальныя бытавыя ўмовы для нашых артыстаў ніхто не паклапаціўся і яны на працягу ўсяго дня пакутавалі ад спёкі…

Як распавёў журналісту “Паходні” адзін з удзельнікаў святочнай праграмы, бялыніцкія артысты прыехалі ў Александрыю яшчэ раніцай і на працягу дня бадзяліся па страшэннай спёцы. Нейкія мерапрыемствы пачаліся толькі пасля 16-00. Былі прынятыя жорсткія меры бяспекі, таму нават пакінуць месца правядзення мерапрыемства без дазволу было вельмі праблематычна.

Дрэнна быў арганізаваны і гандаль прахладжальнымі напоямі і півам, паўсюль былі вялікія чэргі. Як кажа ўдзельнік мерапрыемства, каб набыць куфель піва, яму давялось стаяць у чарзе больш за гадзіну. З сабой жа праносіць нейкія напоі ў бутэльках больш за палову літра альбо ў шкляной тары наогул не дазвалялась.

А колькі давялось вынесці акцёрам, якія на тэматычным падвор’і “Свята агурка” гэтыя самыя агуркі прадстаўлялі і былі апранутыя ў адпаведную цёплую вопратку…

Вельмі незадаволены адбыўшымся ў Александрыі Купаллем і шматлікія жыхары Магілёва. З-за таго, што на малой радзіме Рыгоравіча за грошы падаткаплацельшчыкаў быў арганізаваны шыкоўны “сабантуй” з феерверкамі і канцэртнай праграмай, у абласным цэнтры наогул не праводзілісь ніякія святочныя мерапрыемствы.

Што ж, для жыхароў Магілёўшчыны не павінна быць сакрэтам, што ў “Беларусі ўсё робіцца ў імя чалавека, усё на выгоду чалавека”. І ўсе мы гэтага чалавека добра ведаем…

**Багдан Іваноў**

# В РАЙОННОМ СПК ДОЯРОК ЗАМЕНИЛИ БУХГАЛТЕРАМИ И СЕКРЕТАРШАМИ




В "Горячую линию" TUT.BY написал Сергей: он поделился проблемой одного из СПК Могилевской области. Из-за постоянных запоев доярок доить коров вынуждают остальных работников – от бухгалтеров до секретарей.

"Я работаю в одном из СПК района. У нас в колхозе сложилась весьма нелепая ситуация... В связи с отказом доярок от выхода на работу (точнее с их периодическим долговременным запоем и невыходом), директор почти в принудительном порядке вынуждает работников бухгалтерии, секретарей, экономистов и т.д. выходить за доярок на выполнение их обязанностей – доить коров! Невзирая на то что у этих людей минимум среднее техническое образование", – делится с TUT.BY читатель.

"Люди боятся перечить из-за ряда факторов и выходят доить коров! Как разобраться в ситуации никто не знает. Что делать?" – спрашивает Сергей.

По словам автора сообщения (он попросил не указывать район и конкретное хозяйство), подобные проблемы – далеко не редкость и в других СПК, однако работники не хотят жаловаться, ведь другую работу на селе найти сложно...

Можно подумать, что звонили из одного из хозяйств нашего Белыничского района. Однако во многих других районах Могилёвской области случаются аналогичные истории…

***Виктория Белова***

## Происшествие в Шклове

10 июля в 10-00 в ЦРБ Шклова госпитализирован гражданин 1990 г.р., рабочий РУП «Завод газетной бумаги», житель г. Шклова. Следственно оперативной группой установлено, что 10 июля около 9-35, выполняя ремонтные работы на территории указанного завода, он был травмирован электрическим током. Проводится проверка.




# БЯЛЫНІЦКІЯ МІЛІЦЫЯНЕРЫ ЗНІШЧАЮЦЬ МАК

Зараз супрацоўнікі Бялыніцкага РАУС занятыя тым, што шукаюць на сядзібах жыхароў раёна і на ўсялякіх няўдобіцах пасевы маку і канопляў. Пошукавыя мерапрыемствы праводзяцца ў межах спецаперацыі "Мак".

Толькі за адзін дзень 8 ліпеня бялыніцкія пінкертоны знайшлі і знішчылі 44 кілаграмы дзікарослага маку у нашым раёне. На бабулю 1939 года нараджэння, якая пражывае ў вёсцы Васількі, быў складзены адміністрацыйны пратакол, бо ў яе на гародзе было знойдзена 14 кг дзікарослага маку.

Яшчэ 30 кг дзікарослага маку міліцыянеры знайшлі і знішчылі каля вёскі Сурды.

***Віктар Баравікоў***

## У Магілёве хочуць правесці пікет у падтрымку праваабаронцы Алеся Бяляцкага

Адпаведную заяву з просьбай дазволіць правядзенне масавага мерапрыемства падалі магілёўскія праваабаронцы Аляксей Колчын і Барыс Бухель.

Праз пікет яны хочуць звярнуць увагу грамадскасці да праблемы знаходжання за кратамі вядомага беларускага праваабаронцы.

Летась, у лістападзе Бяляцкага асудзілі на 4,5 года калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Яго прызналі вінаватым ва ўтойванні прыбыткаў у асабліва буйным памеры. Насамрэч грошы на рахунках у Літве і Польшчы прызначаліся на праваабарончую дзейнасць. Суд не прыняў да ўвагі тое, што шкода, якую нібыта нанёс Бяляцкі, была цалкам кампенсаваная за кошт добраахвотных ахвяраванняў грамадзян.

***Вітольд Няўрыда, "Наш Магілёў"***

ПАХОДНЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна

Адрас рэдакцыі: Бялыніцкі раён, в. В.Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 11.07. 2012 г. у 20-00.